## "ХАЛОДНАЯ СІНАГОГА" – ЗНІКЛЫ ДРАЎЛЯНЫ СІМВАЛ МАГІЛЁЎСКАЙ ТАЛЕРАНТНАСЦІ (ПРАЦЯГ СТР.1)



"Самай вядомай магілёўскай сінагогай з'яўляецца «Халодная сінагога» на Школішчы. Навукоўцы схіляюцца да думкі, што яна была пабудавана ў 1680 годзе, а размалёвана ў 1740-ым мастаком са Слуцка Хаімам бен Іцхакам Халеві Сегалам, па расповядах – прапрадзедам Марка Шагала", - адзначаецца на сайце "Магілёў яўрэйскі".

Паводле Дзячкова, продак Шагала распісаў сінагогу каляровымі малюнкамі. "Там былі выявы 12 знакаў задыяка, міфічных жывёлаў і гарадоў. Гэтыя выявы захаваліся, бо ў пачатку ХХ стагодзя была экспедыцыя ў Магілёў даследчыкаў іудаізма, і ўсё было змалёвана на паперы. І некаторыя даследчыкі адзначалі, што пад вывай міфічных гарадоў праглядаліся рысы Магілёва часоў Рэчы Паспалітай", - адзначае краязнаўца.

Роспіс быў зроблены па дошках, распавядае Дзячкоў. "Паколькі ў іудаізме забаронена выява чалавека, там былі выявы старажытных гарадоў, міфічных істотаў, выява цмока, 12 знакаў задыяка", - кажа ён.

Па дайшоўшых да нас звестках, вага на сінагогу і яе роспісы была звернута ў 1913-1914 гадах пасля некалькіх расійскіх экспедыцый і артыкула вельмі вядомага ў будучым мастацтвазнаўцы Рахель Вішніцэр, апублікаванага ў адным з тамоў «Гісторыя яўрэйскага народа" саліднага выдання "Расія. Поўнае геаграфічнае апісанне нашай айчыны" разам з некалькімі фотаздымкамі роспісаў.

"Выдатнае апісанне і копіі роспісаў пакінуў у адзіным сваім артыкуле, прысвечаным яўрэйскаму мастацтву, "Успаміны аб Магілёўскай сінагозе" вядомы прадстаўнік мастацкага авангарда Эль Лісіцкі, які пабываў у Магілёве разам са сваім калегай-мастаком Ісахарам Рыбаком", - распавядае "Магілёў яўрэйскі".

Артыкул Лісіцкага пра "Халодную сінагогу" выйшаў у 1923 годзе ў Берліне. Яго надрукаваў яўрэйскі часопіс "Рымон-Мілграім", выстрымкі з якога можна знайсці ў першым томе "Гісторыі магілёўскага яўрэйства", які пабачыў свет у 2002 годзе ў Мінску. Складальнікам выдання стаў магілёўскі фатограф Аляксандр Ліцін.

"Сцены, высечаныя лесвіцай, з дубовых бярвенняў. Над імі столь, як обшыты дрэвам шацёр. Усе заклепкі на паверхні – ніякага падмана, ніякіх ілюзій… Інтэр'ер сінагогі распісаны ад лавак уздоўж сцен па ўсёй іх даўжыні і да самой вяршыні "шатра". Чатырохвугольная на узроўні падлогі сінагога ўдымаецца да васьміўгольнай столі, якая мае выгляд шатра… Трохвугольнай формы панэлі маскіруюць пераход ад чатырох- да васьміўгольніка. Панэлі столі размешчаны з неверагодным адчуваннем кампазіцыі. Іншым разам усё гэта прадстаўляе поўную супрацьлегласць прымітывізму, хутчэй плод векавой культуры", - піша Эль Лісіцкі.



Паводле яго, эпіцэнтрам усёй пабудовы ёсць столь. "На заходнім баку над уваходам размешчаны агромністыя ільвы, а пад імі – паўліны. Ільвы трымаюць дзве шыльдачкі з надпісамі, прычым на ніжняй майстар пакінуў памяць пра сябе. На трохвугольных паўночнай і паўднёвай пласкасцях шатра ў форме фрыза размешчаны падводныя і наземныя драпежнікі з дабычай. Зверху, у небе, зоркі рассыпаюцца ў выглядзе кветак. На зямлі ліса нясе ў зубах птушку. Мядзведзь лезе на дрэва ў пошуках мёду. Птушкі нясуць у клювах змеяў. Фігуры, якія лятаюць і бегаюць, у сапраўднасці ёсць людзьмі. Скрозь маскі звяроў і птушак яны глядзяць чалавечымі вачыма. Гэта – выдатная рыса яўрэйскага народнага мастацтва", - цытуе Лісіцкага "Гісторыя магілёўскага яўрэйства".

Што ж тычыцца ўласна будынка сінагогі, то знешне ён быў даволі вялікі з двускатным дахам. Такі, як дзесяткі падобных калісьці раскіданых па гарадах і мястэчкага колішняга Вялікага княства Літоўскага. Цікава, што ў 1918 годзе адным з першых указаў савецкай улады сінагога была прызнана помнікам даўніны і пастаўлена пад ахову дзяржавы, а ў 1938 годзе апошняй у Магілёве была зачынена для малебнаў і разабраная па бярвеннях.

"Гэтую сінагогу разабралі перад вайной у 1938 годзе на бярвенні. Падмуркі гэтай сінагогі захаваліся і ў перспектыве нічога не замінае, каб аднавіць яе і зрабіць музей яўрэйскай культуры Магілёва", - упэўнены Алег Дзячкоў. Ён адзначае, што побач з сінагогай метраў у 70 быў касцёл святога Антонія, метраў у 150 - мураваная Пакроўская царква. "Унікальнае месца, бо ў адным месцы напрацягу некалькіх стагоддзяў у Магілёве мірна суіснавалі тры канфесіі", - кажа ён.

Драўляную сінагогу аднавіць таней, чым мураваны будынак. "Пакуль нават яўрэі магілёўскія думаюць, што гэта не рэальна, але я думаю, што цалкам рэальна. Бо не такія ўжо вялікія выдаткі", - кажа Дзячкоў.


# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№85

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў,
вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

**Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда**

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 23 снежаня 2014 г.


■ Уладзімір Лапцэвіч

ГРАМАДСТВА

## "ХАЛОДНАЯ СІНАГОГА" – ЗНІКЛЫ ДРАЎЛЯНЫ СІМВАЛ МАГІЛЁЎСКАЙ ТАЛЕРАНТНАСЦІ

**Магілёўская "Халодная сінагога", якая калісьці стаяла на Школішчы (дзе цяпер магілёўскія ўлады плануюць стварыць парк адпачынку), засталася толькі на фотаздымках і ва успамінах старажылаў. Гэтую сінагогу можна аднавіць і зрабіць ў ёй музей магілёўскага яўрэйства, лічыць мясцовы краязнаўца, старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы Алег Дзячкоў.**



Сёння яўрэяў у Магілёве ўсяго каля 1-2%. А яшчэ сто гадоў таму насельніцтва Магілёва напалову складалася з людзей гэтай нацыянальнасці. Многа іх жыло на Школішчы. "Гэты раён быў месцам кампактнага пражывання магілёўскіх яўрэяў - каля Верхняга горада на беразе Дняпра. І называўся Школішчам. У XVII стагоддзі там была пабудаваная з бярвенняў драўляная сінагога. І пры ёй была школа, таму называлася Школішчам", - кажа Алег Дзячкоў.

**Працяг на стр.4**

## ЗВАНІЦА СПАСКАЙ ЦАРКВЫ МАЕ РЭАЛЬНЫЯ ШАНЦЫ НА АДНАЎЛЕННЕ

**Пару гадоў таму ў Магілёве паміж Архіерэйскім Валам Каніскага і вуліцай Ленінскай (Вялікай Садовай альбо Ветранай) з'явіўся Спаскі завулак. Лагічным працягам было б вяртанне калі не Спаскай царквы, якая калісьці дала назву таму завулку, то хаця б яе званіцы, бо зараз месца на скрыжаванні завулку і вала нічым не занятае.**



"Сама царква да Паўночнай вайны была драўляная і Спаскі манастыр быў драўляны. Войскі Пятра I адступалі ў верасні 1708 года і па яго загадзе Магілёў быў спалены. А разам і Спаская царква", - распавёў "Нашаму Магілёву" мясцовы краяўзнаўца Алег Дзьячкоў.

Паводле яго, новую царкву скалацілі на скорую руку – "яна нават нахілялася пры моцным ветры". "У 1740-х гадах пачалі будаваць мураваную. І завяршаў будаўніцтва ўжо Георгій Каніскі, які прыехаў у Магілёў у 1775 годзе. І ён запрасіў на той час аднаго з самых выбітных архітэктараў на тэрыторыі былога Вялікага княства Літоўскага Іагана Глаўбіца. Сам Глаўбіц быў пратэстант. Жыў у Вільні. Быў старшынём пратэстанцкай грамады. І як сапраўдны хрысціянін будаваў для людзей усіх канфесій – уніятаў, праваслаўных, каталікоў", - кажа Дзьячкоў.

Краязнаўца лічыць Спаскую царкву ў Магілёве ўнікальнай і непаўторнай для Беларусі таго часу. "Глаўбіц пабудаваў яе ў стылі позняга беларускага віленскага барока. На ўсходзе Магілёўшчыны, акрамя мсціслаўскага храма, больш не магу прыгадаць такіх. Да таго ж унікальнай Спаская царква была яшчэ тым, што ў сярэдзіне XVIII стагоддзя мураваных праваслаўных храмаў амаль не будаваліся. Бо перыяд быў такі, што на тэрыторыі Беларусі праваслаўных было толькі 8%. Не было каму будаваць і для каго", - кажа ён.

**Працяг на стр.3**

■ Якуб Корсак

# ЯЎРЭЙСКІ ЭШАБАТ У МАГІЛЁВЕ ЯШЧЭ ПАСТАІЦЬ

**Магілёўскія ўлады пакуль не плануюць знішчэнне чатырох старых будынкаў, якія знаходзяцца на вуліцы Вялікая Грамадзянская.**





Пра гэта паведамляе ў сваім адказе намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама Аляксандр Вяракса.

З яго адказу вынікае, што знішчаць дамы ў сувязі з будаўніцтвам новага парку ў раёне Падніколля не плануецца.

Нагадаем, што раней магілёўскія журналісты і праваабаронцы выказвалі занепакоенасць тым, што з-за будаўніцтва новага парку будуць знішчаны будынкі, якія ўяўляюць сабой гісторыка-культурную каштоўнасць.

У прыватнасці гутарка ішла і пра дом №13 па вуліцы Вялікая Грамадзянская, які з'яўляецца помнікам гісторыка-культурніцкага дойлідства 3-й катэгорыі. Раней у гэтым будынку знаходзіўся яўрэйскі эшабат, школа і сінагога.

Трэба адзначыць, што ініцыятарам звароту ў гарвыканкам з нагоды лёсу дамоў у раёне колішняга Школішча выступіла рэдакцыя газеты «НАШ Магілёў» у межах інфармацыйнай кампаніі «Захаваем стары Магілёў».

# НА СЬМЕТНІКУ Ў МАГІЛЁВЕ ЗНАЙШЛІ СТАРОЕ ГАБРЭЙСКАЕ НАДМАГІЛЬЛЕ

**У Магілёве на вуліцы Пралетарскай на сьметніку знойдзенае ўнікальнае старое габрэйскае надмагільле.**



На мармуровай моцна пашкоджанай пліце надпіс на іўрыце. Зь яго вынікае, што магільная пліта (па габрэйску «мацэва»), з украінскага Магілёў-Падольскага. Як трапіла яна за тысячу кілямэтраў у беларускі Магілёў— загадка.

Надпіс сьведчыць, што ўсталяванае надмагільле было ў Магілёў-Падольскім на магіле дачкі равіна, які меў прозьвішча Шор. Жанчына памерла ў 1916 годзе. Пражыла больш за 80 гадоў.

Паводле мясцовых жыхароў, мацэва на сьметніку ляжыць больш за пяць гадоў. Яно, кажуць людзі, дужа цяжкое, таму ніхто не наважваўся яго вывезьці. Пра магільную пліту мясцовая габрэйская грамада даведалася ад жыхара адна-го з дамоў на вуліцы Пралетарскай. Ён адзначае, што ўвагу пліта прыцягнула надпісам, таму ён і вырашыў паведаміць знаёмай габрэйскай актывістцы.

Мацэву перавезьлі на габрэйскія могілкі. Тут яна будзе захоўвацца, пакуль вядуцца пошукі ва Ўкраіне тых, каго яна зацікавіць, альбо высьветліцца гісторыя, як пліта трапіла ў Беларусь.

# ЦЕНТРАЛЬНАЯ АЛЛЕЯ ПАРКА ЗАЛОЖЕНА В ПОДНИКОЛЬЕ

**Здесь высажены 6 голубых елей и 12 красных дубов.**

В Могилеве началась закладка центральной аллеи в Подникольском парке культуры и отдыха. Высадить первые деревья сюда пришли представители власти, почётные граждане областного центра, студенты, школьники… Возглавили трудовой десант председатель Могилевского облисполкома Петр Рудник и мэр Могилева Владимир Цумарев. Полчаса работы – и саженцы получили место своей постоянной прописки.

Сейчас на аллее высажены 6 голубых елей и 12 красных дубов. А впереди - масштабная работа, ведь парковый проект довольно большой: необходимо высадить деревья и кустарники на всех 100 га парка. Планируется, что уже будущей весной здесь появятся ивы, клены, туи, разнообразные декоративные кустарники. Как отметил председатель Могилевского горисполкома Владимир Цумарев, в реализации этого проекта власти рассчитывают на помощь жителей областного центра. Ведь в перспективе этот парк должен стать хорошим местом для отдыха.



# ЗВАНІЦА СПАСКАЙ ЦАРКВЫ МАЕ РЭАЛЬНЫЯ ШАНЦЫ НА АДНАЎЛЕННЕ

(ПАЧАТАК НА СТР. 1)



**Прыгажосць і смерць Спаскай царквы**

Як сведчыць энцыклапедычны даведнік "Архітэктура Беларусі", які выйшаў у Мінску ў 1993 годзе, магілёўская Спаса-Праабражэнская царква размяшчалася на высокім беразе Дняпра, у глыбіні кварталу. Уяўляла сабой крыжова-купальны храм з дзвюхвежавым галоўным фасадам. Над сяродкрыжжам на высокім светлавым васьмігранным барабане ўзвышаўся сферычны купал, завершаны галоўкай. Да глухіх граней барабану далучаліся чатыры двух'ярусныя вежачкі з невысокімі купаламі, якія разам стваралі пяцігаловую кампазіцыю. Галоўны фасад завяршалі двух'ярусныя вежы, паміж якімі размяшчаўся высокі ступеньчатага абрысу франтон. Сцены фасадаў завяршаліся шырокім тонкапрафіляваным карнізам, рытмічна чляніліся лучковымі аконнымі праёмамі з дэкаратыўнымі ляпнымі дэталямі, паміж вокнамі — спараныя пілястры з дарычнымі капітэлямі. У інтэр'еры чатыры цэнтральныя слупы пры дапамозе падпружных арак падтрымлівалі купал на ветразях. Інтэр'ер быў багата аздоблены, тут знаходзіліся творы магілёўскіх майстроў: жывапісца Мірона Пігарэвіча і чаканшчыка Пятра Сліжыка. У 1785 годзе было скончанае будаўніцтва мураванай агароджы з брамай і двух'яруснай званіцай і манастырскага корпусу.

Мураваная званіца атрымала дадатковую назву "астранамічная вежа", распавядаецца на сайце Магілёўскай праваслаўнай епархіі ў артыкуле «История храмов Могилевщины». "С нее во времена Г. Конисского проводились астрономические наблюдения. Епископ Георгий распорядился установить на куполе колокольни Спасского монастыря, вместо креста, сделанный из меди, покрытой золотом образ Архангела Гавриила с мечом в правой руке. Этот образ простоял на Спасской колокольне более полувека, пока в 1825 году снова не был заменен могилевским архиепископам Павлом на крест", - адзначаецца ў артыкуле.

Як сведчыць невядомы аўтар, чый артыкул размясціўся старонках газеты "Веснік Магілёва" ад 15 чэрвеня 2012 года, пасля смерці Каніскага (13 лютага 1795 года) на 78-м годзе жыцця, яго цела было пахавана ў Спаскай царкве і нібыта доўгі час заставалася нятленым.

«Исторический факт: в конце июля 1812 г. наполеоновские солдаты делали зачем-то обыск в Спасской церкви. Они взрывали пол, рыли ямы, отпирали и осматривали кладовые, сундуки с серебряной утварью и др. Открывали и гроб с телом Г. Конисского. После этого велели все позакрывать. В храме не взяли ничего! Забрали только 8 турецких пушек, что стояли рядом, которые когда-то подарил «светлейший» князь Григорий Потемкин на колокол весом в 111 пудов.

Спасская церковь сильно пострадала в годы Великой Отечественной войны, и ее, без особых раздумий или душевных терзаний, снесли-уничтожили в конце 1940-х. Как, впрочем, и другие недалеко от нее расположенные Богоявленский собор, Воскресенскую, Успенскую и Покровскую церкви. То, что можно было и сберечь, и постепенно возродить», - распавядаецца ў газеце.

"Ва ўсіх даведніках напісана, што Спаская царква была знішчана гітлераўцамі падчас вайны. Але я размаўляў с адным са старых жахароў Лупалава. Ен кажа, што яна была пашкоджана падчас вайны, а знеслі яе пасля вайны, праўда, дакладна невядома, у якім годзе", - кажа Дзьячкоў.

Пры гэтым ён адзначае, што частку званіцы, відаць, знеслі яшчэ да вайны. "Ёсць здымак даваенны, і на ім ужо аднаго з ярусаў званіцы няма. А на купалах Спаскай царквы крыжоў ужо няма", - прыгадвае краязнаўца, адзначаючы, што 80-90% падмуркаў храма цяпер знаходзіцца пад будынкам упраўлення Следчага камітэта, а падмуркі званіцы нішто не перашкаджае раскапаць і даследаваць.

**Спачатку адбудаваць званіцу, а потым, можа, і храм**

"Спаскую царкву аднавіць немагчыма – там будынак Следчага камітэта, які не перасунеш. Але ёсць праект цалкам рэалістычны – праект аднаўлення вежы Спаскай царквы. Яна стаяла крышку асобна. Сёння яна б стаяла на Спаскім завулку. І калі б яе аднавіць, гэта было б цудоўна", - распавёў "Нашаму Магілёву" кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін МДУ імя Куляшова Аляксандр Агееў.

Ён сцвярджае, што раней быў праект адбудовы вежы, дзе быў бы размешчаны нейкі бар. "Быў праект зрабіць там невялічкі бар, від з якога адкрываўся б на Задняпроўе цудоўны. Але менавіта ў тым стылі, ў якім вежа была пабудавана. Ёсць дастаткова і малюнкаў, і фатаграфій. Гэта рэалістычна", - упэўнены гісторык.

Паводле яго, адбудаваная званіца Спаскага храма аднаўляла б сілуэт горада. "Па вышыні яна была ніжэй за Ратушу. Бо самую высокую вежу меў Багаяўленскі манастыр, потым - Ратуша, а Спаская – трэцяя", - адзначае Агееў.

На яго думку, адбудова Спаскай званіцы магла б стаць камерцыйны праект, але патрэбным і гісторыкам, і грамадскасці, бо ў перспектыве тры высокія дамінанты ствярылі б атмасферу старога горада.

Ідэя аднаўлення гэтай званіцы не новая, адзначае ў сваю чаргу Алег Дзячкоў. "Нават нехта з архітэктараў рабіў праект па аднаўленню Спаскай званіцы. Таксама чуў пра варыянт, што там тэлескоп хацелі ўсталяваць і аддаць пад філіял Куляшоўскага ўніверсітэта", - распавёў Дзьячкоў.

Разам з тым ён мяркуе, што пры сучасных тэхналогіях магчыма і аднаўленне ўласна Спаскай царквы. "Калі адновяць Спаскую царкву, то першае, што будуць бачыць магілёўцы і госці з боку Дняпра - будзе Спаская царква. Гэта можна зрабіць у перспектыве", - гаворыць краязнаўца.